# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

*№ 24 (53). Слонім. 12 — 18 чэрвеня 1998 г.* *Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік* *Кошт свабодны*

**НАВІНЫ**

## Ваду зноў пераацэняць

**Магчыма, з 1 ліпеня падымуцца цэны на камунальныя паслугі.**

Цяпер міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, піша газета "Звязда", рыхтуе новыя тарыфы на ваду, на вываз смецця, павысіцца таксама і кватэрная плата. Мяркуецца, што ўвогуле цэны на камунальныя паслугі павялічацца на 15-20%.

**Наталля ФУРСАВА**

## Спасет ли президент искусство?

**Гродненский областной комитет профсоюза работников культуры обратился к президенту Беларуси с просьбой обратить внимание на проблему низкой зарплаты работников культуры и искусства.**

В последнее время в обком поступил ряд обращений из Гродненского и Слонимского драматических театров, Гродненского театра кукол, музеев и библиотек в связи с крайне низким уровнем оплаты труда. Многие работники культуры поставлены на грань выживания: месячный служебный оклад с 10-% премией у библиотекаря, актера театра и работника музея первой категории составляет сегодня 1 млн. 718 тыс. рублей, второй категории – 1 млн. 607 руб., без категории – 1 млн. 504 тыс. рублей. Еще меньше получает обслуживающий персонал учреждений культуры и искусства.

**БелаПАН**

## Церковь и армия

**Заместитель министра внутренних дел республики — командующий внутренними войсками генерал-майор Юрий Сиваков и Патриарший Экзарх всея Беларуси Филарет подписали соглашение о сотрудничестве между внутренними войсками страны и Белорусской православной церковью.**

Соглашение направлено на практическое внедрение в армейскую жизнь традиционных нравственных норм и религиозных обрядов православного христианства. Документ предусматривает установление воинских церковных праздников и участие священнослужителей в проведении воинских ритуалов, создание духовных уголков и строительство воинских храмов. Генерал и Владыка учредили совместное издание газеты «Христолюбивый воин».

**БелаПАН**

**ВЁСКА**

# КАЛГАСНАЯ ГІСТОРЫЯ



Генадзь Красачка

**Бадай, сёння вёска Мялькканавічы можа пахваліцца адзінай славутасцю, якая прыкметна выдзяляецца на ўсё наваколле — катэджам старшыні калгаса імя Леніна Генадзя Красачкі. Сапраўды, ва ўсёй гаспадарцы, мусіць, няма такой шыкоўнай хаткі з цэглы і жалезабетону са шматлікімі збудаваннямі і саунай.**

Асабліва сваёй веліччу ўражвае агароджа. Можна толькі здагадвацца, колькі сілы і сродкаў трэба было ўкласці, каб паставіць каля сотні металічных слупоў і столькі ж бетонных пралётаў. Гэтым манументальным плотам агароджана тэрыторыя ўладанняў старшыні, па памерах падобная на гарадскі стадыён "Юнацтва".

Невыпадкова, як адзначаюць мясцовыя жыхары, часта каля гэтай вядомай сядзібы можна бачыць персанальныя аўтамабілі першых асоб горада і раёна. Кажуць, што гаспадар – вялікі майстар зрабіць для гасцей у сауне лёгкую пару.

Канешне, вельмі добра, што нарэшце мы навучыліся так добра і прыгожа будаваць. Значыць ёсць у чалавека грошы, каб жыць заможна.



Тут жыве старшыня калгаса імя Леніна

*Працяг на 2 стр.*

**ЗДАРЭННІ**

## Мінскі хлопчык загінуў у Высацку...

**Сямігадовы мінчанін С. адпачываў у вёсцы Высацк.**

8 чэрвеня без нагляду дарослых ён пайшоў паплаваць на мясцовы вадаём. Падчас купання хлопчык патануў.

## ...а калгасны пастух у Пасінічах

7 чэрвеня 25-гадовы пастух Л. калгаса імя Леніна ў нецвярозым стане патануў на вадаёме ля вёскі Пасінічы.

## Забойца з Хадзявіч

На мінулым тыдні жыхар вёскі Хадзявічы, раней судзімы Васіль Рышкевіч, знаходзячыся ў гасцях на вуліцы Пушкіна, падчас сумеснай выпіўкі, смяротна параніў гаспадара дома М.

Забойца арыштаваны.

## Гарэў лес

**8 чэрвеня ў 13 гадзін 20 хвілін невядомы жыхар Альбярціна паведаміў у пажарную часць, што побач з мікраараёнам гарыць лес.**

Выехаўшыя на месца здарэння сем пажарных машын толькі пад вечар змаглі патушыць агонь.

Аднак раніцай, 9 чэрвеня, полымя ўзнікла зноў. Прыйшлося пажарнікам выехаць на тое самае месца і, нарэшце, патушыць пажар.

Яго прычыны высвятляюцца.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Удакладненне

У "Газеце Слонімскай" (№17) ад 24-30 красавіка ў заметцы "На волі жыць не хацеў" было напісана: "Чамусьці не здзівілася маці вучня Азярніцкай школы Ю. і не спытала ў сына, дзе ён узяў тэлевізар і іншыя рэчы, якія ноччу прынёс у хату".

Маці хлопца Людміла Юдзіцкая не згодна з гэтым. Яна сцвярджае, што сын "крадзеныя рэчы і тэлевізар прынёс у іншы дом, таму пра крадзеж яна не ведала і пра здарэнне даведалася ад супрацоўнікаў міліцыі".

## Поздравляем!

Майору милиции Александру Макаренко, начальнику отделения БЭП Слонимского ГРОВД, присвоено звание подполковника милиции.

**Н.Ф.**

**ЗАГЛЯНЕМ НА РЫНОК**

Цены (в тыс.руб.)

| | 27.05 1998 | 10.06 1998 |
|---|---|---|
| апельсины | 45 | 45 |
| бананы | 75 | 75 |
| яблоки | 20-23 | 20 |
| чеснок | 60 | 65 |
| картофель | 6-6.5 | 7 |
| молоко (1л.) | 7 | 7 |
| творог | 14 | 20 |
| масло сл. | 90 | 90 |
| яйца (1дес.) | 28 | 28 |
| свинина | 65-150 | 65-145 |
| сало солёное | 90-95 | 85-110 |
| мед | 200-210 | 210 |
| капуста | — | 40 |
| сметана | 14 | 28-30 |
| лимоны | 65 | 60-70 |
| говядина | 65-140 | 60-140 |
| телятина | 65-140 | 60-140 |
| цыплята (1 шт.) | 13 | 13 |
| поросята | — | 1100 |

**ЦИТАТА НОМЕРА**

## Редкие гости

"Озгиновичский и Большешиловичский сельисполкомы Слонимского района тоже не блещут высокой организацией проведения заседаний и выполнения решений. Являясь членами исполкомов, руководители хозяйств А.А.Каленкевич, Г.М.Красочка в их работе участвуют крайне редко. Члены райисполкома тоже забыли дорогу в эти сельисполкомы... Не хозяином, а редким гостем бывают на заседаниях низовых органов власти руководящие работники Вороновского, Ивьевского, Новогрудского, Слонимского, Свислочского, Островецкого райисполкомов, районных служб и организаций".

**А.Дубко, председатель областного исполкома ("Гродзенская праўда", 4 чэрвеня 1998г.)**

**ЗДАРЭННІ**

## Да Слоніма не даехалі...

**У пачатку тыдня ў Слоніме пахавалі 31-гадовага Віктара Вінобера, які загінуў падчас аварыі, што адбылася ноччу 7 чэрвеня каля вёскі Даманава Івацэвіцкага раёна.**

Па дадзеных Івацэвіцкай міліцыі, Віктар Вінобер разам са сваім сябрам, 33-гадовым Генадзем Борыцам, ехалі на аўтамашыне "Фіат" з Мінска ў Слонім. Вадзіцель не справіўся з кіраваннем. У выніку, машына заляцела ў кювет і перакулілася. Абодва мужчыны загінулі на месцы здарэння.

## Джып — машына моцная



**У мінулую пятніцу ў 2 гадзіны 40 хвілін жыхары дома №42 на Чырвонаармейскай вуліцы раптоўна прачнуліся ад моцнага гуку, падобнага на выбух.**

Тыя людзі, якія выйшлі на балконы, убачылі разбіты аўтамабіль, з якога выскоквалі хлопцы і дзяўчаты. Пасля чаго яны вывалаклі з салона вадзіцеля і паклалі на лаўку аўтобуснага прыпынку, а самі разбегліся. Праз некалькі хвілін да месца здарэння пад'ехала міліцэйская машына, а затым "хуткая дапамога".

Высветлілася, што джып, рухаючыся на вялікай хуткасці з боку гарадскога рынку, нечакана зруліў улева. Іншамарка зрэзала, нібы лязом, дзве прыдарожныя ліпы, дыяметрам каля 30 сантыметраў і жалезабетонны слуп вулічнага асвятлення.

–Моцная машына! – адзначылі супрацоўнікі міліцыі, якія прыехалі на месца здарэння. На іх думку, вынікі аварыі маглі быць значна цяжэйшымі, калі б на месцы магутнага джыпа быў звычайны аўтамабіль.

Раніцай стала вядома, што ніхто з пасажыраў джыпа за медыцынскай дапамогай не звяртаўся. А вось вадзіцель машыны Ю.Данілюк атрымаў калецтвы і цяпер знаходзіцца ў бальніцы.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Изменения в расписании на летний период на маршруте №10 (со 2 июня, рабочие дни)

**Пл. Ленина**: 6-55, 7-55, 8-55, 10-45, 11-45, 12-45, 13-45, 14-45, 15-45, 16-00, 17-00, 18-00, 19-00, 20-20, 21-30, 22-30.

**Санаторно-лесная школа**: 6-25, 7-25, 8-25, 9-25, 11-15, 12-15, 13-15, 14-15, 15-15, 16-30, 17-30, 18-30, 19-30, 21-00, 22-00, 23-00.

Расписание автобуса 10-го маршрута по выходным дням остается прежним.

С 1 июля автобус №12 (такси) будет курсировать как обычный маршрут. Новое расписание автобуса №12 будет напечатано в нашей газете.

ГОРАД *Невыдуманая гісторыя*

# КАНФЛІКТ

**Ёсць на вуліцы Васі Крайняга дом №16. Дом як дом. Жывуць у ім цяпер дзве сям'і: Зайцавых і Сцяпураў. Суседзі, адным словам. Але апошняе дзесяцігоддзе не сціхае паміж імі канфлікт, які падобны на гульню ў адны вароты.**

## Як можна захапіць плошчу

Спачатку ў доме №16 жыло пяць сямей. Гадоў дзесяць назад сем'і адсялілі, бо быў запланаваны капітальны рамонт дома. Але пасля вырашылі "у сувязі з добрым станам асноўных канструкцый дома і нязгодай кватэраз'ёмшчыкаў ні з адной з прапануемых перапланіровак зняць дом №16 па вул. В.Крайняга з плана капітальнага рамонту". Гэта цытата з рашэння Слонімскага гарвыканкама за №22 ад 25 кастрычніка 1991 года.

У доме павінны былі застацца дзве сям'і, Сцяпураў і Зайцавых. Прычым апошнія мелі права на дадатковую жылплошчу. Дзіўныя падзеі пачаліся пасля гэтага рашэння ўладаў. 15 лістапада 1991 года камісія ў складзе інжынера В.Кобызева, масцяроў Т.Бялоцкай і А.Шэйко абследавала дом №16 і выявіла, што "кватэраз'ёмшчык кв. №1 Сцяпура самавольна разабрала частку сцяны і ўстанавіла перагародку ў кватэры №2, тым самым павялічыла "полезную" плошчу сваёй кватэры на 20,7 кв. м".

Пазней стала вядома, што Сцяпура раней за Зайцавых вярнулася ў дом, за ноч разваліла капітальную сцяну і перагарадзіла пакой, які павінны былі даць Зайцаву, паставіўшы новую сцяну. Гэта ёй "сошло с рук". Сцяна, як стаяла, так і стаіць.

## Як паветку зносілі

А ў 1993 годзе Сцяпура прыбудавала да гаража Зайцавых сваю паветку. Аднак у гэтым раёне (цэнтр горада) падобныя пабудовы жыхарам мець не дазваляецца. Зайцаву ж, як ветэрану вайны, зрабілі выключэнне.

Адміністрацыйная камісія гарвыканкама аштрафавала Кацярыну Сцяпура за гэта на мільён рублёў і абавязала яе знесці прыбудоўку. Аднак час ішоў, штраф яна не плаціла і паветку не зносіла. А пасля штраф ёй зусім адмянілі, бо яна, маўляў, сама знясе сваю паветку. Не знесла.


Паветка і сёння стаіць на тым жа самым месцы.

## Праблему вырашылі?

У траўні 1995 года Рыгор Зайцаў прыватызаваў сваю кватэру. Гарвыканкам рашэннем №22 ад 24.05.95 замацаваў за ім зямельны ўчастак з агульным дваром. Падобны ўчастак быў замацаваны і за Кацярынай Сцяпура. Будаўнікі павінны былі пабудаваць з боку вуліцы В.Крайняга плот і вароты, каб Зайцаў мог выязджаць на сваім матацыкле з двара. Аднак Сцяпура гэтага зрабіць не дазволіла. Больш таго, яна загарадзіла праезд плотам.

Здарылася гэта ў чэрвені 1996 года. Зайцаў звярнуўся ў Слонімскі РАУС, які наклаў на Кацярыну Сцяпура адміністрацыйнае спагнанне. На месца выязджалі і галоўны архітэктар, і старшыня гарвыканкама. Аднак грамадзянка Сцяпура ігнаравала патрабаванні ўладаў спыніць будаўніцтва. Працягвала яна ігнараваць і рашэнне суда ад 6 верасня 1996 г., які абавязваў К.Сцяпура да 20 верасня 1996 года прыбраць перашкоду, каб агульным дваром мог карыстацца і Зайцаў. Аднак Сцяпура і не думала гэта рабіць.

Далей падзеі пачалі развівацца зусім у дзіўным накірунку. 11 верасня 1996 г. гарвыканкам "з выхадам на месца", перагледзеў свае ранейшыя рашэнні і, улічваючы "магчымасці адасобленага заезду ў гараж грамадзянінам Зайцавым Рыгорам Захаравічам з боку плошчы Леніна, рашыў раздзяліць агульны двор паміж суседзямі" (рашэнне № 582 ад 11.09.96). Такім чынам улады, нібыта, вырашылі праблему.

## Новы плот з'явіўся апоўначы

Мала таго, што Зайцавы былі адгароджаны ад вуліцы В.Крайняга высокім плотам, дык у 1997 годзе, у выхадны дзень, Сцяпура пабудавала яшчэ адзін плот, захапіўшы частку зямельнага ўчастка Зайцавых. Такім чынам, яна зусім перакрыла яму выхад са двара, пасля чаго Зайцавым прыйшлося амаль месяц карыстацца акном (!), каб выйсці з хаты. Старыя людзі-інваліды вымушаны былі па драбіне спускацца на вуліцу (на здымку).

## "Можаш падаваць на мяне ў суд!"

Нарэшце, будаўнікі зламалі цагляны плот з боку ЗАГСа і паставілі для Зайцавых асобныя вароты і брамку (гаспадароў у гэты дзень дома не было). Нават не спыталіся, ці зручна будзе гаспадару выязджаць на матацыкле, калі некалькі дзён на тыдзень каля ЗАГСа — дзесяткі машын.

—Апошні раз я быў у старшыні гарвыканкама Лакцюшына ў чэрвені 1997 года, — гаворыць Зайцаў. — Ён мне сказаў: "Як мае работнікі зрабілі, так і будзе". Я кажу, што буду скардзіцца далей, бо парушаны ўсе мае грамадзянскія правы, не гаворачы пра правы ветэрана вайны і інваліда. "Як зрабілі, так і будзе, і больш да мяне не хадзі. Можаш падаваць на мяне ў суд, калі я парушыў твае правы", — заявіў мэр ветэрану вайны.

**Сяргей ЁРШ**

**P.S.** Пракаменціраваць гэтую сітуацыю мы папрасілі галоўнага архітэктара горада Уладзіміра Казырновіча. Па яго словах, "ніякага канфлікту няма, — праблема ўжо вырашана"... Здаецца, што сапраўды яна вырашана. Але ўзнікае пытанне: чаму так здарылася, што ветэрану прыйшлося столькі перажыць і паблукаць па пакутах. Сам Рыгор Зайцаў лічыць, што яго жорстка пакрыўдзілі. Таму ён збіраецца па дапамогу звярнуцца ў прэзідэнцкую адміністрацыю.









ПОЧТА *Здравствуй, редакция!*

## Вы дапамаглі мне ўспомніць маладосць

Я выпісваю "ГС" з першых месяцаў яе выхаду ў свет. Для слонімцаў і для другіх жыхароў вобласці яна вельмі цікавая. Газета дае нам магчымасць успомніць гады нашай маладосці, расказваючы пра цікавыя факты з мінулага. А таксама аўтары газеты проста і змястоўна даносяць да жыхароў звесткі пра тое, што адбываецца цяпер.

У "ГС" вельмі пазнавальныя нарысы па гісторыі бацькаўшчыны, нашага народа, у тым ліку і пра партызанку на Слонімшчыне. Калі я прачытаў артыкул "Правду должны знать все" за 22-28 траўня, дык мне адразу ўспомніўся бой у вёсцы Сасноўка. Я, падлетак, тады выпадкова знаходзіўся ад месца бою ў адлегласці каля 1 км і ўсё добра бачыў.

Тады загінула трое паліцэйскіх і адзін немец, а з боку атрада засталося забітых каля 15 партызанаў (з іх адна жанчына). Больш таго, адступаючы, партызаны спалілі вёску, пакінуўшы людзей без даху над галавой. На фотаздымку, які быў змешчаны ў "ГС" разам з матэрыялам, я пазнаў камандзіра Н.Бабкова, а з ім майго настаўніка фізікі ў Ружанскай школе Французава, які вучыў мяне пасля вайны.

Я вельмі ўдзячны за тое, што "ГС" на сваіх старонках узнімае такія даволі вострыя гістарычныя пытанні. Жадаю ўсім супрацоўнікам газеты творчых поспехаў.

З вялікай павагай да Вас

**Васіль ПАЛЯШЧУК, пенсіянер**



ІНФАРМБЮРО

***Я на сваім "Запарожцы" не ездзіў тры гады — ніяк не мог знайсці патрэбную запчастку. Нарэшце я адрамантаваў аўтамабіль і паехаў у ДАІ, каб прайсці тэхагляд. Там мне паведамілі, што я павінен спачатку заплаціць штогадовы збор за дарогі. Ці правільна гэта?***

**К.М., ваш пастаянны чытач**

З гэтым пытаннем наш карэспандэнт звярнуўся да начальніка мясцовай падатковай інспекцыі Людмілы Гаркавай.

Яна адказала, што ў інспекцыі не існуе практыкі тлумачэння пытанняў падаткаабкладання праз газету. Таму адказаць на гэта пытанне Людміла Мікалаеўна можа толькі тады, калі пісьмо нашага чытача мы перашлём у падатковую інспекцыю, альбо ён асабіста звернецца да яе.

—Мы дамо пісьмовы адказ у дзесяцідзённы тэрмін, а калі звернецца інвалід, то адкажам і раней, — сказала Людміла Гаркавая, — а што датычыцца вашай просьбы, то нам забаронена даваць які б не было каментарый "Газеце Слонімскай".

**Ад рэдакцыі:**

Нас, мякка кажучы, здзіўляе стаўленне падатковай інспекцыі да запытаў падаткаплацельшчыкаў. Няўжо начальніца гэтай дзяржаўнай службы не разумее простую ісціну: чым больш людзей будуць ведаць пра свае абавязкі па падаткаабкладанню, тым менш будзе ўзнікаць розных праблем па гэтаму пытанню. Аднак, высвятляецца, што "Газету Слонімскую" і яе чытачоў гэта дзяржаўнае пытанне хвалюе больш, чым падатковую інспекцыю.



ФУТБОЛ *высшая лига*

**Динамо (Минск)**
**Коммунальник (Слоним) — 3 : 0**

Следующий матч «Коммунальник» проводит 14 июня, в воскресенье. В Слоним приедут футболисты гродненского «Немана».

**РЕЗУЛЬТАТЫ ОСТАЛЬНЫХ МАТЧЕЙ ТУРА:**

Гомель — Локомотив-96 — 3:0, Динамо -93 — Шахтер — 3:1, Торпедо Мн — Динамо Бр — 5:0, Белшина — Нафтан-Девон — 6:0, Славия — Днепр-Трансмаш — 1:3, Неман — Молодечно — 2:0, Торпедо-Кадино — БАТЭ — 3:1.

**ТУРНИРНАЯ ТАБЛИЦА**

**ПОСЛЕ 10-ГО ТУРА**

| | | И | В | Н | П | М | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Днепр-Трансмаш (Могилев) | 10 | 7 | 1 | 2 | 25-6 | 22 |
| 2. | Торпедо (Минск) | 10 | 6 | 4 | 0 | 19-5 | 22 |
| 3. | Белшина (Бобруйск) | 10 | 5 | 3 | 2 | 17-5 | 18 |
| 4. | Гомель | 10 | 5 | 3 | 2 | 13-8 | 18 |
| 5. | Торпедо-Кадино (Могилев) | 10 | 5 | 2 | 3 | 16-13 | 17 |
| 6. | Динамо (Минск) | 10 | 5 | 1 | 4 | 13-10 | 16 |
| 7. | Динамо-93 (Минск) | 10 | 4 | 4 | 2 | 17-10 | 16 |
| 8. | БАТЭ (Борисов) | 10 | 4 | 3 | 3 | 15-13 | 15 |
| 9. | Локомотив-96 (Витебск) | 10 | 4 | 3 | 3 | 10-8 | 15 |
| 10. | Славия (Мозырь) | 10 | 4 | 2 | 4 | 14-17 | 14 |
| 11. | Динамо (Брест) | 10 | 4 | 1 | 5 | 12-13 | 13 |
| 12. | Шахтер (Солигорск) | 10 | 3 | 3 | 4 | 9-15 | 12 |
| 13. | Неман (Гродно) | 10 | 2 | 3 | 5 | 6-15 | 9 |
| 14. | Нафтан-Девон (Новополоцк) | 10 | 2 | 2 | 6 | 11-20 | 8 |
| 15. | Молодечно | 10 | 1 | 0 | 9 | 8-25 | 3 |
| 16. | Коммунальник (Слоним) | 10 | 0 | 3 | 7 | 4-26 | 3 |

СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98

НАШЫ ТАЛЕНТЫ

## Ёсць у Слоніме і кампазітары!



**У дзіцячую музычную школу прыйшла добрая навіна: выхаванка школы, трэцякласніца СШ №1 Маша Равінчык, заняла другое месца на V-ым міжнародным конкурсе юных кампазітараў "Надзея-98", які праходзіў у Гродна.**

Трэці год дзяўчынка займаецца ў музычнай школе на аддзяленні харавога дырыжыравання. Інструмент, на якім яна вучыцца іграць — фартэп'яна, а яе настаўніца Вольга Огнева ўбачыла ў сваёй вучаніцы задаткі кампазітарскага таленту.

—Усім сваім вучням, пачынаючы з першага класа, я даю магчымасць падчас заняткаў імправізіраваць творы, якія яны развучваюць, — гаворыць Вольга Огнева, — лічу, што менавіта гэта і падштурхнула дзяцей складаць свае музычныя творы, бо калі творчыя задаткі не падтрымліваць, то яны могуць ніколі не развіцца. Вядома ж, не ўсе будуць кампазітарамі, аднак час паказаў, што Маша Равінчык — таленавітая дзяўчынка.

Першы раз яна прадставіла свае музычныя творы на IV-ым міжнародным конкурсе ў 1996 годзе, аднак тады Машы крыху не пашанцавала.

—У гэтым годзе я вельмі рыхтавалася да ўдзелу ў конкурсе, — сказала Маша. — У выніку я стварыла тры нумары: фартэп'янную п'есу "Матрошкі", санаціну для цымбалаў і фартэп'яна, а таксама "Песеньку пра пажар". Не ведаю, які твор больш спадабаўся журы, аднак была на сёмым небе ад шчасця пасля таго, як паведамілі, што я заняла другое месца сярод 56-ці ўдзельнікаў конкурсу, — сказала Маша Равінчык.

Магчыма, пройдуць гады і можа здарыцца так, што Маша Равінчык праславіць Слонім гэтак жа, як калісьці яго праславіў вядомы кампазітар Міхал Агінскі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**НАША СПАДЧЫНА**

# ВЁСКА ШЫЛАВІЧЫ НЕКАЛІ БЫЛА ГРАФСТВАМ

*Невядомыя факты з гісторыі Альбярціна і Шылавіч*

**Гэтыя ўспаміны належаць апошняму ўладальніку Альбярцінскага маёнтка графу Уладзіславу Пуслоўскаму (1871-1964). Нягледзячы на тое, што яны напісаны "сухою" мовою, успаміны ўсё ж цікавыя, маюць гістарычную вартасць — падаюць некаторыя факты, дасюль невядомыя.**

Як месца жыхарства землеўладальніка, Альбярцін вядзе свой пачатак з сярэдзіны XIX стагоддзя (з таго часу вядомы і назоў гэтага месца). Да таго часу тут знаходзіўся толькі невялікі фальварак, які ўваходзіў у вялікі куст уладанняў Шылавічы (у арыгінале – "Шыдлавічы" – **Рэд.**). Там і знаходзіўся першапачатковы графскі двор. Да першай сусветнай вайны ў Альбярціне існаваў архіў, згодна адпаго з яго дакументаў, першая згадка пра Шылавічы адносіцца да сярэдзіны XV стагоддзя. У прыватнасці там гаворыцца, што дачка князя Пяцігорскага, выходзячы замуж за Юндзіла, мела ў пасагу, акрамя іншых уладанняў, і Шылавічы.

Наступная згадка пра Шылавічы адносіцца ўжо да канца XVI стагоддзя, калі чарговы ўладальнік Няміра прадаў Шылавічы канцлеру Вялікага Княства Літоўскага Льву Сапегу. Прыблізна ў той жа час Л. Сапега набыў яшчэ у Паўла Верашчакі вёску Якімавічы.

Пасля смерці Ганны Сапега ў 1667 годзе Шылавічы дасталіся апякуну Хіларыю Палубінскаму, маршалку Вялікага Княства Літоўскага. Палубінскі прадаў Шылавічы Ганне Скапец. Якімавічы, Шастакі, Ісаевічы ён прадаў Цыпрыяну Паўлу Бжастоўскаму. Неўзабаве Бжастоўскі адкупіў і Шылавічы.

У 1809 годзе Шылавічы купляе Войцех Пуслоўскі – маршалак Слонімскі, які быў жанаты на князёўне Юзэфе Друцкай-Лябецкай. Пасля яго гэтыя ўладанні атрымаў у спадчыну адзін з яго сыноў – Уладзіслаў, які быў жанаты на князёўне Генавефе Друцкай-Лябецкай, а пасля ўнук – Францішак Ксаверы Пуслоўскі (1847-1908гг.), які ўзяў у жонкі Леанціну Влодэк.

Апошнім гаспадаром Шылавіч, Альбярціна і іншых палескіх уладанняў быў сын Францішка Ксаверыя – Уладзіслаў (1871-1964, аўтар гэтых успамінаў – **Рэд.**), які быў жанаты на Крысціне Марыі з княжацкага роду Пігнацеллі д'Арагон.




Заўладаўшы Шылавічамі, якія ў той час называліся "графствам", Войцех Пуслоўскі пасяліўся ў доме, які існаваў з часоў Бжастоўскага. Дом згарэў у 1833 годзе. Жывучы ў Шылавічах, В. Пуслоўскі пашырыў невялікае фабрычнае паселішча ў Альбярціне, дзе да таго часу знаходзілася толькі невялікая папяровая фабрыка. Сюды ён перавёз з Хомска фабрыку сукна і дываноў, пабудаваў некалькі будынкаў у Александрыйскім стылі. Сярод іх быў і двухпавярховы цагляны заезны дом. Пасля пажару ў Шылавічах, Уладзіслаў Пуслоўскі прыбудаваў да яго новае крыло пад прамым кутом. Ён запланаваў такое ж крыло зрабіць з другога боку, але канфлікт з князем Паскевічам вымусіў яго на доўгі час пакінуць краіну. Новы маёнтак у памяць свайго бацькі Уладзіслаў назваў Альбярцінам (так на заходні манер гучала імя бацькі).

У бібліятэцы графа налічвалася некалькі дзесяткаў тысяч тамоў: кнігі, пачынаючы з XVII стагоддзя, старажытныя атласы, карты. Архіў пачынаўся з дакументаў XV ст. і меў дачыненне да ўсіх вядомых родаў данай мясцовасці; пергаментныя каралеўскія дакументы, копіі Літоўскай Метрыкі, перапіска, тэстаменты і інш. Там жа быў тэлескоп з астранамічнымі прыладамі англійскай работы XIX ст. З карцін у графскім доме адзначу: эскіз работы Леанарда да Вінчы "Галоўка", эскіз Пітэра Рубенса "Кентаўр", дзве работы Петэра Брэйгеля і дзве карціны Вернэта; некалькі венецыянскіх партрэтаў, закупленых у Італіі. Былі і работы польскіх мастакоў Шымона Цэховіча, Юлюша Коссака, Манюшкі, Францішка Жмуркі і інш.

Аўтарам двух белых мармуровых ільвоў лічыцца скульптар Канова. Яшчэ два венецыянскіх ільва, якія адносіліся да XIV стагоддзя, стаялі каля ўваходу на тэрасу. Сцяну над камінам у кабінеце графа распісваў вядомы мастак Францішак Жмурка. У доме быў вялікі набор замежнай і польскай мэблі, калекцыя фарфору, калекцыя адзення і мундзіраў, пачынаючы з канца XVIII стагоддзя. Наведвальнікам маёнтка запомніўся кітайскі домік з бронзы, вышынёй 2,5 метра, у выглядзе шматпрыступкавай пагады, які асвятляўся срэбранымі званочкамі, а таксама шэсць мармуравых бюстаў на міфалагічныя тэмы канца XVIII ст. Недалёка ад дома стаялі дзве мармуравыя італьянскія скульптуры.

У 1915 г. фронт, які набліжаўся да Альбярціна, прымусіў Пуслоўскіх вывезці найбольш каштоўныя рэчы ў Маскву. Для гэтага спатрэбілася чатыры з паловай вагоны. Пасля эвакуацыі гаспадароў дом заняў генерал Данілаў, пасля тут жыў нямецкі камандуючы фронтам князь Леапольд Баварскі. У той час Альбярцін наведвалі прынц Караль (пазней — імператар Аўстрыі) і Вільгельм II. Пад канец вайны, пакінуты на волю лёсу, палац быў цалкам разрабаваны.

У пасляваенны час палац часткова аднавілі. З вывезеных у Маскву чатырох з паловай вагонаў маёмасці ўдалося вярнуць толькі палову вагона... Палац папаўняўся рэчамі з іншых маёнткаў, а таксама з-за мяжы. Зноў была ўкамплектавана бібліятэка. Падчас другой сусветнай вайны ўсё гэта бясследна знікла.

Пераклад з польскай мовы **Ігара ПАДГАРАДЗЕЦКАГА.**

**А ЯШЧЭ БЫЎ ТАКІ ВЫПАДАК**

# Гаражны раман

Пятрусь Гэблік вяртаўся на сваім "Мэрсэдэсе" ад цешчы з Юнзелаў, дзе, як ён сам любіў казаць, "учыніў чарговы грабёж вёскі". Каля вёскі Азгінавічы фары раптам асвяцілі на абочыне прыгожы жаночы стан.



—Глядзі ты, і не баіцца ночцу адна ісці, — падумаў Пятрусь. Амаль параўняўшыся з маладзіцай, ён крыху прытармазіў і яму ў вочы кінуўся глыбокі разрэз на спадніцы, адкуль паблісквалі прывабныя ногі жанчыны. Нібы туман заслаў вочы Гэбліку, і ён націснуў на педаль тармазоў. Нахіліўшыся ўправа, ён адчыніў дзверку і прапанаваў:

—Калі на Слонім, то сядайце!

Маладзіца, на выгляд 25-ці гадоў, усміхнулася, паказаўшы белыя, нібы снег, зубы і ўселася побач.

—Злата́ная, ліха на яе, — адзначыў пра сябе Гэблік — Ногі прыгожыя і доўгія, растуць нібы ад самай шыі.

Каля хутара Дубіно, прыгажуня прамовіла:

—Як хутка вы едзеце, і як ціха бяжыць ваша машына, адно задавальненне.

Пятрусь адчуў, што дзяўчына "клюнула" і адказаў:

—А дзе яна падзенецца, бяжыць. Я ж не гнаў ламачу з Германіі. А вы адкуль у такі час? Дарэчы, мяне завуць Гарыкам. А вас?

—Наташай. А вы адкуль едзеце? — у сваю чаргу запытала яна.

І Гэблік, нібы з магнітафоннай стужкі, выдаў гадамі адпрацаваны адказ:

—З Брэста, з нарады. Думаў да цямна паспею дамоў. А тут яшчэ ў Альбярцін машыну ў гараж гнаць трэба.

Наташа ўсміхнулася і прашчабятала:

—То і едзьце ў свой гараж. А чаму ён у вас так далёка?

У Гэбліка язык нібы развязалі і ён расказаў дзяўчыне неверагоднейшую гісторыю, быццам памерла жонка, а ён размяняў кватэру ў Альбярціне на Энку...

Не заўважылі, як прыехалі ў гараж. Пятрусь загнаў свой "Мэрс", уключыў магнітолу і прапанаваў Наташы:




—Паслухайце музычку, а я хуценька збегаю да сябра, ён жыве тут недалёка.

Наташа і не пярэчыла, толькі дадала:

—Глядзіце, не затрымлівайцеся доўга, Гарык!

Гэблік зачыніў дзверы і накінуў замок на прабой, каб часам прыгажуня не збегла. Не паспеў адыйсціся ад гаража, як перайшоў на бег, каб хутчэй быць на Калгаснай вуліцы ў свайго даўнішняга сябрука Аркадзя Пшыхуты і ўзяць у яго бутэльку.




Па дарозе ён праклінаў сябе, што не дапетрыў, выязджаючы ад цешчы, купіць у Юнзелах пляшку гарэлкі. Толькі Пятрусь адчыніў брамку на падворак сябрука, як на яго накінулася велізарная аўчарка. Ад нечаканасці ён пахіснуўся назад і, зачапіўшыся за нешта, упаў на кветнік. Аўчарка кусала яго за ногі, спіну...



Пакуль ад шуму прачнуўся і выбег Аркадзь Пшыхута, аўчарка ўшчэнт разарвала Петрусёвыя навюткія джынсы, што падаравала яму жонка на дзень нараджэння.

Аркадзева жонка Надзя перавязвала Петрусю раны, а Аркадзь выклікаў "хуткую дапамогу".

Два медыкі агледзелі Петруся і сказалі, што трэба ехаць у бальніцу. Пятрусь стаў адмаўляцца, аднак пажылая жанчына-урач патлумачыла:

—Не жартуйце са здароўем. Раны даволі сур'ёзныя.

Калі Гэбліка прывезлі ў бальніцу, ён успомніў пра зачыненую ў гаражы Наташу і зразумеў, што справы зусім дрэнныя. Ён ледзьве ўпрасіў дзяжурную медсястру, каб тая дазволіла патэлефанаваць. Набраўшы нумар Аркадзя Пшыхуты, ён паведаміў:

—Збегай, дружа, у мой гараж і адчыні дзверы. Замок не замкнёны, а толькі начэплены. Пасля я табе ўсё растлумачу. Бяжы хутчэй.

Шчыра кажучы, Аркадзю не вельмі хацелася валачыся ў Петрусёў гараж, які знаходзіўся каля самага Мінскага тракту, але трэба ж выручаць сябрука, з якім выпіта не адна пляшка гарэлкі. Ішоў і ўвесь час думаў, што гэта магло такое здарыцца?




На месцы, толькі ён паспеў зняць з прабоя замок і адчыніць дзверы, як атрымаў моцны ўдар нечым цяжкім па галаве. Пшыхута не чакаў такога і, развярнуўшыся, імгненна даў "на пяту", далей ад біды.

Прыбег дамоў і з паўгадзіны клаў на галаву халодныя прымочкі, у той час, як жонка засыпала яго пытаннямі. Аднак Аркадзь маўчаў як рыба аб лёд.




Раніцай у палату да Петруся Гэбліка ўляцела ягоная жонка.

—А божачкі, што нарабілася? Я цалюткую ноч званіла і ў міліцыю, і да мамы. Думала, мо заначаваў у яе. А рад раніцу пайшла глянуць у гараж. А там страх божы, што робіцца: шкло ў машыне ўсё пабітае, дзверы ў гаражы насцеж... Раскажы, што з табой адбылося? — запытала яна.

—Дома ўсё раскажу, — буркнуў Пятрусь і моцна застагнаў, прытварыўшыся, што яму вельмі дрэнна, у надзеі, што жонка хутчэй пакіне палату.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

НЕВЕРАГОДНА

# 1998 — ГОД ПАЧАТКУ КАНЦА СВЕТУ?

Мы жывём на рубяжы новай касмічнай эпохі — эпохі Вадалея. Адлік новага часу пачнецца з 2005 года, а напярэдадні гэтай падзеі касмічнай значнасці разыграецца цэлая містэрыя, сведкамі і ўдзельнікамі якой акажамся мы ўсе, сцвярджае вядомы астролаг Павел Глоба. І сёлетні год стане адным з найбольш цяжкіх у жорсткай барацьбе сіл святла і цемры.

Верагодна, што менавіта 1998 год стане пачаткам канца свету. Аб гэтым, па меркаванню астролага, сведчыць і нумералагічны змест лічбы 1998, бо 1998 — гэта 666 памножанае на 3. Ні адзін год, кратны тром шасцёркам, не прайшоў для чалавецтва бясследна.

У 666 годзе, напамінае Павел Глоба, пад ударамі мусульманскіх халіфаў, якія выкарысталі вучэнне прарока Мухамеда ў палітычных мэтах, палі галоўныя святыні зараастрыйскага Ірана, былі патушаныя тры святыя храмавыя агні, што з'яўляліся сімваламі рэлігіі Заратустры. Тады ж былі высечыны святыя гаі, адкуль бралі драўніну высакародных гатункаў для рытуальных зараастрыйскіх цырымоній агню.

А ў 1332 годзе (666х2) вялікая чума пазбавіла жыцця палову жыхароў Еўропы.

Астролаг не выключае, што рэха тых сумных далёкіх падзей адгукнецца і ў гэтым годзе. Не выпадкова, на яго думку, перад пачаткам новага года па тэлебачанню быў паказаны фільм пра антыхрыста "Омен".

Сёлетні год багаты на пятніцы 13-га — дзень разгулу д'яблаў. Дзве з іх мы ўжо перажылі (13 лютага і 13 сакавіка), апошняя яшчэ наперадзе — 13 лістапада. Тры такія пятніцы ў адзін год — з'ява нячастая, паўтараецца раз у адзінаццаць гадоў.

Сёлета пятніца, 13 сакавіка, супадала з зацьменнем Месяца. Зацьменні ва ўсе часы лічыліся астролагамі адмоўнай касмічнай з'явай. Бягучы год насычаны імі, а маючае адбыцца 22 жніўня зацьменне будзе зусім асаблівым, абяцае астролаг. Гэтая з'ява, мяркуе Павел Глоба, аналагічная шэрагу зацьменняў мінулага, сярод якіх асабліва выдзяляецца сонечнае зацьменне 5 траўня 1818 года. Падчас яго нарадзіўся "бацька" навуковага камунізму Карл Маркс.

Сёлетні год, на думку Паўла Глобы, мае шанц увайсці ў гісторыю чалавечай цывілізацыі, як год трыумфу антыхрыста. Хіба не супраць людзей скіраваныя доследы амерыканскага вучонага Сіда па кланіраванню? Хіба ж не знішчэнне насельніцтва чакае Зямлю пры паспяховых выніках гэтага эксперыменту, калі з'явяцца моцныя, паслухмяныя, пазбаўленыя душы, кланіраваныя чалавечыя арганізмы?

Павел Глоба абапіраецца на прадказанні Настрадамуса, які прадракаў падобны ход падзей. Старажытны астролаг пісаў: "Затым у Адкіле зарозіцца імперыя антыхрыста, і падзеленыя сыдуць у вялікай колькасці, так што прыход Святога Духа, які пачнецца з 48 градуса, выкліча вялікае перасяленне людзей, што ратуюцца ад жахаў антыхрыста, які ваюе супраць чалавека каралеўскай крыві, які стане вялікім намеснікам Ісуса Хрыста, і супраць яго царства на працягу доўгага часу, і які карыстаецца спрыяльным момантам. І будзе яму папярэднічаць сонечнае зацьменне, самае цёмнае і непрагляднае з часоў пачатку свету".

Рычард Сід аб'явіў пра планы кланіравання людзей 8 студзеня, калі сонца знаходзілася ў 19-ым разбуральным градусе Казярога.

Падчас зацьменняў заўсёды адбываюцца страшныя падзеі. Паласа жніўеньскага зацьмення пройдзе над Марыінскай упадзінай і прынясе шэраг марскіх катастроф, выкліча ўтварэнне моцных цыклонаў, а таксама павышэнне сейсмічнай актыўнасці ў асобых рэгіёнах зямлі.

Па меркаванню Паўла Глобы, прырода адчуе набліжэнне антыхрыста і праявіць сябе як неўтаймоўная стыхія. Аднак чалавецтва, што знаходзіцца ў стане духоўнага сну, так нічога і не зразумее. Верагодна, з'яўленне антыхрыста і набліжэнне катастрофы людзі не заўважаць. Калі ж яны прачнуцца і адкрыюць вочы на тое, што адбываецца, можа быць ужо позна, лічыць вядомы астролаг.

**"Звязда"**

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

✝

**НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ АДЫШЛІ НАЗАЎЖДЫ:**

| | |
|---|---|
| **Кудравец** Аляксандр Іванавіч | 1916 г.н. |
| **Радзіён** Васіль Уладзіміравіч | 1909 г.н. |
| **Макарэвіч** Надзея Піліпаўна | 1913 г.н. |
| **Грыпіч** Уладзімір Іванавіч | 1940 г.н. |
| **Вінобер** Віктар Віктаравіч | 1967 г.н. |
| **Яшына** Тамара Васільеўна | 1930 г.н. |

# Нашы вярнуліся з медалямі

**Завяршыўся VII Рэспубліканскі фестываль польскай песні, які прайшоў у Навагрудку.**

У ім прымалі ўдзел і слонімскія артысты: хор касцёла Святой Марыі, якім кіруе Людміла Богдан і хор раённага аддзялення Саюза палякаў Беларусі, мастацкім кіраўніком якога з'яўляецца Наталля Кукліцкая.

Прысутным фестывалю асабліва спадабаўся вальс у выкананні Каці Кулакоўскай (СШ №9) і Пятра Мароза (СШ №8). Нашы самадзейныя калектывы былі адзначаны ганаровымі дыпломамі і памятнымі медалямі.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

# Школа без стадыёна

**Вучні Мяльканавіцкай сярэдняй школы здавалі залікі і экзамены па фізкультуры, бегаючы ... па вясковай вуліцы.**

Прычына таму банальная – няма ў школы стадыёна. Раней ён быў, але па нейкіх прычынах на яго месцы калгас пабудаваў некалькі дамоў. Вось і пакутуюць дзеці і настаўнікі. "Школа без стадыёна, што чалавек без сэрца, – гаворыць адна з настаўніц з Мяльканавіч, – у нас няма неабходных умоў для фізічнага развіцця дзяцей". А калгас імя Леніна і пальцам не варухне, каб пабудаваць стадыён.

**Сяргей ЁРШ**

# "И с песней зазвучит душа",

**под таким названием прошел музыкальный вечер в гостинной центральной библиотеки.**

Вечер-портрет посвященный жизни и творчеству белорусского композитора Игоря Лученка провела город-ская библиотека №2 как показательное мероприятие. Игорь Лученок написал более 100 песен, и самые лучшие из них звучали в тот день.

Помогли провести этот вечер музыкальные педагоги СШ №8 Татьяна Клыбик и Наталья Полещук вместе со своими воспитанницами.

**Елена ЛЕПКО**

# Чакае фестываль

**19 чэрвеня адкрываецца V фестываль беларускай паэзіі і песні "Маладзечна-98".**

У конкурснай праграме фестывалю ад Гродзенскай вобласці выступяць нашы вядомыя спевакі Вольга Змуршчык і Аляксандр Звяровіч. Яны выканаюць новыя песні беларускіх аўтараў.

**Міхась АКУЛКА**

# РАСПИСАНИЕ ДВИЖЕНИЯ ПАССАЖИРСКИХ ПОЕЗДОВ

**по станции Барановичи-Центральные на 1998-99 г. (введено с 24 мая 1998 г.)**

| № | НАПРАВЛЕНИЕ | ДНИ КУРСИРОВАНИЯ | ПРИБ. | СТОЯНКА | ОТПР. |
|---|---|---|---|---|---|
| 9 | Москва-Варшава | ежедн | — | — | — |
| 10 | Варшава-Москва | ежедн | — | — | — |
| 13 | Москва-Берлин | ежедн | 21-36 | 4 | 21-40 |
| 14 | Берлин-Москва | ежедн | 16-15 | 4 | 16-19 |
| 15 | Москва-Варшава | ежедн | 10-40 | 4 | 10-44 |
| 16 | Варшава-Москва | ежедн | 19-37 | 4 | 19-41 |
| 21 | Москва-Прага | ежедн | 8-30 | 4 | 8-34 |
| 22 | Прага-Москва | ежедн | 18-13 | 4 | 18-17 |
| 27 | Москва-Брест | ежедн | 3-01 | 4 | 3-05 |
| 28 | Брест-Москва | ежедн | 21-20 | 3 | 21-23 |
| 33 | Москва-Варшава | 1,2,3,5 день | 20-55 | 4 | 20-59 |
| 34 | Варшава-Москва | 3,4,5,6, день | 1-31 | 4 | 1-35 |
| 45 | Свердловск-Брест | ср, вт | 14-48 | 4 | 14-52 |
| 46 | Брест-Свердловск | сб, ср | 13-22 | 8 | 13-30 |
| 49 | С-Петербург-Брест | ежедн | 7-32 | 4 | 7-36 |
| 50 | Брест-С.Петербург | ежедн | 16-00 | 5 | 16-05 |
| 69 | Саратов-Брест | пт | 19-14 | 4 | 19-18 |
| 70 | Брест-Саратов | вс | 10-06 | 3 | 10-09 |
| 73 | Москва-Брест | ежедн | 4-00 | 4 | 4-04 |
| 74 | Брест-Москва | ежедн | 16-50 | 6 | 16-56 |
| 131 | Москва-Брест | ежедн | 10-54 | 4 | 10-58 |
| 132 | Брест-Москва | ежедн | 4-30 | 4 | 4-34 |
| 177 | Адлер-Брест | чет | 12-25 | 5 | 12-30 |
| 178 | Брест-Адлер | чет | 23-17 | 4 | 23-21 |
| 195 | Москва-Брест | ежедн с 26.05 по 3.10, чет. с 04.10 | 10-26 | 2 | 10-28 |
| 196 | Брест-Москва | ежедн с 25.05 по 2.10, нечет с 3.10 | 0-27 | 2 | 0-29 |
| 103 | Минск-Варшава | ежедн | 22-57 | 4 | 23-01 |
| 104 | Варшава-Минск | ежедн | 5-08 | 4 | 5-12 |
| 105 | Минск-Брест | ежедн | 19-27 | 4 | 19-31 |
| 106 | Брест-Минск | ежедн | 9-33 | 4 | 9-37 |
| 248 | Гродно-Днепропетровск | с 28.05 ч/з 4 дня | 1-05 | 5 | 1-10 |
| 247 | Днепропетровск-Гродно | с 27.05 ч/з 4 дня | 2-46 | 2 | 2-48 |
| 6605 | Барановичи-Гродно | ежедн | 14-08 | 1 | 14-09 |
| 6606 | Гродно-Барановичи | ежедн | 22-05 | 1 | 22-06 |
| 655 | Барановичи-Лида | вт, чт, сб, вс | 6-30 | 6 | 6-36 |
| 668 | Гродно-Могилев | вт, чт, сб, вс | 5-58 | 2 | 6-00 |
| 667 | Могилев-Гродно | ежедн | 0-32 | 2 | 0-34 |
| 111 | Горький-Брест | с 15.06 по 29.08 пт, чт, сб | 14-48 | 4 | 14-52 |
| 112 | Брест-Горький | с 16.06 по 30.08 вт, пт, вс | 13-22 | 8 | 13-30 |
| 113 | Новосибирск-Брест | вс | 14-48 | 4 | 14-52 |
| 114 | Брест-Новосибирск | пн | 13-22 | 8 | 13-30 |

**по станции Барановичи на 1998-99 г. (введено 24 мая 1998 г.)**

| № | НАПРАВЛЕНИЕ | ДНИ КУРСИРОВАНИЯ | ПРИБ. | СТОЯНКА | ОТПР. |
|---|---|---|---|---|---|
| 53 | С.-Петербург-Черновцы | 2,3,5,7 день | 8-55 | 20 | 9-15 |
| 54 | Черновцы-С.-Петербург | 4,6,7,2 день | 19-27 | 20 | 19-47 |
| 183 | С.-Петербург-Львов | четн | 17-45 | 20 | 18-05 |
| 184 | Львов-С.-Петербург | четн | 2-30 | 15 | 2-45 |
| 189 | С.-Петербург-Львов | ежедн с 27.05 по 9.09, нечет с 11.09 | 6-51 | 19 | 7-10 |
| 190 | Львов-С.-Петербург | ежедн с 25.05 по 7.09, нечет с 09.09. | 9-37 | 20 | 9-57 |
| 195 | Москва-Брест | ежедн с 26.05 по 31.10, четн с 04.10 | 9-55 | 21 | 10-16 |
| 196 | Брест-Москва | ежедн с 25.05 по 02.10, нечет с 03.10 | 0-39 | 23 | 1-02 |
| 213 | Челябинск-Барановичи | вс | 8-08 | — | — |
| 214 | Барановичи-Челябинск | пн | — | — | 17-07 |
| 248 | Гродно-Днепропетровск | с 28.05 ч/з 4 дня | 1-20 | 23 | 1-43 |
| 247 | Днепропетровск-Гродно | с 27.05 ч/з 4 дня | 2-16 | 20 | 2-36 |
| 257 | Рига-Львов | ср, сб | 3-49 | 10 | 3-59 |
| 258 | Львов-Рига | чт, вс | 6-40 | 10 | 6-50 |
| 259 | Рига-Симферополь | нечет с 03.06 по 29.09 | 10-13 | 21 | 10-34 |
| 260 | Симферополь-Рига | четн с 06.06 по 02.10 | 4-49 | 12 | 5-01 |
| 271 | Минск-И.-Франковск | нечет | 18-42 | 18 | 19-00 |
| 272 | И.-Франковск-Минск | нечет | 8-26 | 18 | 8-44 |
| 630 | Барановичи-Житковичи-Житомир | ежедн | — | — | 19-20 |
| 629 | Житомир-Житковичи-Барановичи | ежедн | 9-05 | — | — |
| 650 | Гродно-Гомель | ежедн | 0-50 | 13 | 1-03 |
| 649 | Гомель-Гродно | ежедн | 23-58 | 15 | 0-13 |
| 652 | Барановичи-Полоцк | ежедн | — | — | 21-13 |
| 651 | Полоцк-Барановичи | ежедн | 7-22 | — | — |
| 660 | Брест-Минск | ежедн | 4-37 | 15 | 4-52 |
| 659 | Минск-Брест | ежедн | 21-11 | 16 | 21-27 |
| 668 | Гродно-Могилев | ежедн | 6-10 | 20 | 6-30 |
| 667 | Могилев-Гродно | ежедн | 0-02 | 20 | 0-22 |
| 634 | Брест-Барановичи | ежедн | 18-58 | — | — |
| 633 | Барановичи-Брест | ежедн | — | — | 4-10 |
| 656 | Лида-Баранавичи | вт, чт, сб, вс | 12-47 | — | — |
| 655 | Барановичи-Лида | вт, чт, сб, вс | — | — | 6-20 |
| 656 | Барановичи-Удрицк | ежедн | — | — | 13-02 |
| 655 | Удрицк-Барановичи | ежедн | 22-16 | — | — |
| **Беспересадочные вагоны** | | | | | |
| Барановичи-Брянск | | нечет | — | — | 13-02 |
| Барановичи-Мурманск | | по числам | — | — | 21-13 |
| Брянск-Барановичи | | нечет | 8-26 | — | — |
| Мурманск-Барановичи | | по числам | 21-11 | — | — |

***Примечания***

1. Время отправления — местное.
2. Телефоны справочного бюро — 9-21-77, 0-51
3. Касса предварительной продажи билетов работает с 8-00 до 20-00.
4. Международная касса работает с 7-30 до 19-30.

За изменениями расписания и отмены поездов необходимо следить по расписанию на вокзале.

